16+

ISSN 0132-5957



# Вожык

Часопіс сатыры і гумару

8 • 2018
жнівень



Пётр КОЗІЧ.

**Мікола МАЛЯЎКА**

## САРАМЛІВЫ – ЗНАЧЫЦЬ, НЕ МУЖЧЫНА?

У век прагматычна-імклівы
На жарт не знаходжу адказу,
Губляюся я, сарамлівы,
Пры ўсіх чырванею адразу.

Спачатку і сам не паверыў,
Ды гэта і стала прычынай:
Мяне, юнака-кавалера,
У вёсцы празвалі дзяўчынай.

Куды ні пайду, ні паеду –
Мянушка ў жаночай спадніцы
За мною спяшаецца следам,
Нібыта баіцца спазніцца.

З суседкаю побач прысяду –
Не хочучы звесіш чупрыну,
Пачуўшы, як шэпчуцца ззаду:
– «Дзяўчына» кахае дзяўчыну!..

Жартуюць прыязна, без злосці,
А я дык заплакаць гатоў,
Чакаю: блазнуючы, хтосьці
Прышле да «дзяўчыны» сватоў.

Каб годнасць мужчыны
засведчыць,
Сысці з языка і вачэй,
Рашыў я сяброўцы-суседцы
Прызнацца ў каханні хутчэй.

Ды толькі вяселле згулялі,
Уджаліла новая вестка –
У цешчы цікавіцца сталі:
– Ну, як твая, Ганна, нявестка?..


Алег ГУЦОЛ.

### Мушыная вазня

Пад восень, кажуць, муха злее,
Губляючы сваю надзею
На дармавую лыжку мёду,
Ад крывасмоцтва асалоду.
І ўжо не той рахманы «бзум»,
А злой назойлівасці тлум.
І вораг той, хто й не дыхне,
Ці хто рукою ледзь махне.
Ўсадзіць балюча хоча джала,
Што ўлетку не перашкаджала.

Гудзе мушыная вазня,
Ды «ляп» – і на сцяне мазня.

**Валерый КУХАРЧУК,**
*г. Іванава.*

# Футбольныя аматары



*Гісторыйка*

Вырашылі мы неяк з сябрукамі схадзіць на футбол. Набылі квіткі, усё як трэба. Але ж, хай яго халера, напярэдадні матча двое хлапцоў з нашай кампаніі захварэлі. Засталіся толькі мы з Пецькам. Таму, каб грошы не прапалі, вырашылі лішнія квіткі каму-небудзь перапрадаць.

Падыходзім да стадыёна і бачым паводдаль дзвюх прыгожых дзяўчат. Мой сябар адразу засвяціўся. Падміргнуў мне і пацягнуў у бок незнаёмак. Павіталіся, разгаварыліся ды і аддалі квіткі дзяўчатам за палову цаны. «Сустрэнемся на трыбуне!» – кінулі прыгажуні, а мы з Пецькам паспяшаліся да ўвахода. Усё роўна месцы побач, яшчэ працягнем знаёмства.

Мінула дваццаць хвілін матча, але дзяўчат не было. І тут да нас падселі хлопцы. Мы цікавімся:

– Выбачайце, а гэта дакладна вашыя месцы?

– Так, вось квіткі.

– А дзе вы іх узялі?

– Ды ў дзяўчат на ўваходзе купілі. За двайную цану, праўда, але для аматараў футбола гэта не перашкода!

**Даслала Ганна СІНІЦА,**
*г. Барысаў.*



Алег ПАПОЎ x 4.















І непрыемнасці могуць прыносіць радасць. Калі яны чужыя.

Калі штосьці не клеіцца, расклейваешся і сам.

Каб дасягнуць залатой сярэдзіны, не абавязкова кідацца ў крайнасці.

Ад жыцця можна атрымаць усё. Толькі ў асноўным за грошы.

Для таго, каб пазнаёміцца з каханнем усяго жыцця, бывае дастаткова і аднаго дня.

Мала знайсці сваё месца ў жыцці. Трэба яшчэ ўмець яго заняць.

Кажуць, што грошы – зло. Але з імі можна рабіць дабро.

Памяць – не жанчына: калі здраджвае, з ёю не развядзешся.

Калі ў чалавека жыццё квітнее, ён і пахне прыемна.

Які трэба мець зрок, каб бачыць сябе збоку?

Ёсць такія блізкія, ад якіх хочацца быць як мага далей.

**Барыс КАВАЛЕРЧЫК,**
*г. Гомель.*




Мікола ГІРГЕЛЬ.



Алег ГУЦОЛ.

# Небяспечныя эксперыменты



*Фельетон*

– Вы Іван Ручкін?

– Так, гэта я.

– Раман Нікаў, участковы інспектар. А вось наконт гэтага я і прыйшоў з вамі паразмаўляць, – мужчына паказаў на дзве літровыя бутэлькі з каламутнай вадкасцю пад сталом, якія Ручкін не паспеў схаваць. – На вас скардзяцца жанчыны з гэтай і суседняй вёскі. Кажуць, мужчын спойваеце. Да бліжэйшай крамы яшчэ дабрацца патрэбна, а тут побач – вы з пляшкай за чатыры рублі. Кажуць, і апарат маеце для вырабу алкагольных напояў.

– Я нічога не прадаю, п'ю сам і сваякоў толькі частую. Гэтыя дзве бутэлькі спецыяльна для іх.

Тут рыпнулі дзверы.

– Я, пэўна, пазней загляну, – аднавясковец Аляксандр Шчытко, пастаянны пакупнік самаробных напояў Ручкіна, увайшоў у хату і адразу паспрабаваў выслізнуць назад.

– Пачакайце, а вы хто? – Раман спыніў госця, схапіўшы за рукаў курткі.

– Стрыечны брат, – ціха прамармытаў Іван, не звяртаючы ўвагі на здзіўлены твар Аляксандра.

– Дык пачакайце, тут Іван якраз падрыхтаваў для вас гасцінец, – участковы ўзяў адну з пляшак і працягнуў яе Шчытко, які не разумеў, што адбываецца.

Ручкін трапіў у пастку: ён спрабаваў незаўважна для ўчастковага паказаць аднавяскоўцу, што згаджацца не патрэбна, аднак той не распазнаў намёкаў і старанна шукаў па кішэнях грошы.

– Супакойцеся, хто ж са сваякоў грошы бярэ, – Нікаў нібыта працягваў верыць у гісторыю са стрыечнасцю. – Забірайце, і мы з Ручкіным працягнем размову. Дзве пляшкі не дазволю забраць, бо адна спатрэбіцца экспертам. Чулі, пэўна, што ў суседняй вёсцы мужчына атруціўся алкаголем, зараз у бальніцы знаходзіцца. Яшчэ добра, што ўвогуле выжыў. Яго сястра сказала, што апошні раз ён купляў гарэлку ў Івана.

Шчытко разгублена трымаў у руцэ такую жаданую яшчэ некалькі хвілін таму бутэльку.

– Вось вы бачылі, каб Іван піў свой самагон? Чаму ён грэбуе напоем? – строга запытаў Нікаў.

Аляксандр, здавалася, ужо быў гатовы сам заплаціць каму заўгодна, каб толькі бутэльку ў яго забралі. А ўчастковы працягваў:

– Вы думаеце, што смерць ад атручвання гарэлкай у Беларусі – рэдкасць? Толькі ў мінулым годзе ад выпадковых атручванняў рознымі алкагольнымі напоямі памерла амаль паўтары тысячы чалавек. А гэта каля 20 працэнтаў ад усіх памерлых з-за знешніх прычын, – Раман толькі раніцай прачытаў гэтыя даныя, таму вырашыў працягнуць сваю невялічкую лекцыю. – І пры гэтым больш за 75 працэнтаў сярод памерлых ад алкаголю складаюць мужчыны. А цяпер жахлівая матэматыка: на сто тысяч чалавек гарадскога насельніцтва прыходзілася 12,3 памерлых, на сто тысяч жыхароў сельскай мясцовасці – 28,2. І гэтая сухая статыстыка кажа пра выпадковыя атручванні алкаголем. Але ці заўсёды яны здараюцца знянацку? Асабліва, калі чалавек рэгулярна выпрабоўвае ўдачу, спрабуючы эксперыментальныя напоі?

Шчытко ледзьве даслухаў, хутка паставіў пляшку на стол і выскачыў з хаты.

– Іван, разумееце, да чаго справа ідзе?

– Да адміністрацыйнай адказнасці... у лепшым выпадку. Я сам пакажу апарат. Усе роўна ён мне больш не спатрэбіцца, бо Шчытко ўжо сёння паспее ўсё пераказаць аднавяскоўцам.

Участковы пагадзіўся, аднак падумаў, што для змянення статыстыкі адной канфіскацыі самагонных апаратаў і прыцягнення вінаватых да адказнасці недастаткова. Неяк няправільна, калі бліжэйшы Дом культуры знаходзіцца нават не ў суседняй вёсцы, а значна далей. Няма ніякіх забаў. Ды яшчэ такія ручкіны са сваімі эксперыментальнымі напоямі, каламутнымі, як і перспектывы жыхароў з напалову вымерлых вёсак, – заўсёды побач.

**Алена КЕДА,**
*г. Мінск.*



# Раўнапраўе

Зразумець не ўсе гатовы
Змест сучасных модных словаў.
Хоць прыемныя на слых,
Але сэнс які ж у іх?

Баба дзеда дапякала:
Раўнапраўя пажадала.
А стары вазьмі скажы:
— Перш кабылу запражы!

Стала жонка запрагацца,
А жывёліна — брыкацца.
Баба ў роспачы бяжыць:
— Не магу — дапамажы!

Дзед між тым цвіце, як кветка:
Ў госці ходзіць да суседкі
І балбоча з ёй на лаве —
У нас зараз раўнапраўе!

Баба чуе непарадак:
— Напяку табе аладак
І звару любую страву,
Толькі ты забудзь пра лаву!

Дзед жа хітра круціць вус:
— З твайго боку быў прымус.
Мы жылі без раўнапраўя
І зусім не наракаў я.

Як заведзена ў народзе,
Лепш заўсёды жыць у згодзе,
Свой выконваць абавязак
Без сучасных слоў-падказак.

**Іван АСТРОЎСКІ,**
*г. Мінск.*



Пётр КОЗІЧ.







Сяброўскі шарж Міколы ГІРГЕЛЯ, 1978г.

# Чалавек-усмешка, чалавек-эпоха...

*Сёлета спаўняецца 100 гадоў з дня нараджэння вядомага беларускага пісьменніка Міхаіла Міхайлавіча ПЯНКРАТА (1918–2001), які больш за два дзясяткі гадоў свайго жыцця прысвяціў працы ў «Вожыку». Чалавек-усмешка, чалавек-эпоха – асоба мастака слова найбольш выразна паўстае ва ўспамінах сяброў і калег. Такімі згадкамі з намі падзяліўся Васіль НАЙДЗІН, а мы, у сваю чаргу, дзелімся імі з чытачамі.*

Пра век мінулы гаварыць і проста, і складана. Усяго хапала. Завірух, адліг жыццёвых, турбот розных. Былі і радасці... Імгненняў-момантаў тых у кожнага – гара! А на самым версе – у галаве тваёй, памяці – падзеі незабыўныя, значныя. І мне прыгадваецца зараз 1978-ы. Гэта калі мы, вожыкаўцы, віншавалі Міхася Міхайлавіча з 60-годдзем.

Цёплыя словы, пажаданні, кветкі... Юбіляр быў у разгубленасці. Усе ведалі: калі Пянкраце-браце чуў пра сябе нешта «такое», харошае, не мог трываць... Нетаропка падбіраючы словы, не ведаючы, куды пры гэтым дзець рукі, пераводзіў размову ў іншае рэчышча.

А пра яго жыццёвае рэчышча гаварыць сёння вельмі хочацца. І трэба. Бо з-за сціпласці самога пісьменніка ды па прычыне нашай штодзённай бегатні-мітусні мала хто ў поўнай меры ўсведамляў, які чалавек побач з намі. З якім жывём, працуем разам.

Да месца будзе ўзгадаць, што самы дарагі падарунак юбіляру (у выглядзе кнігі «Спатканні і ростані») зрабіла ў тым далёкім ужо годзе выдавецтва «Мастацкая літаратура». Апавесці, апавяданні і гумарэскі, змешчаныя ў зборніку, я перакананы, зусім не састарыў наш хуткакрылы час.

Нарадзіўся Міхась Пянкрат у вёсцы Карпілаўка Чэрвеньскага раёна. Тут прайшло яго басаногае дзяцінства, адсюль пакрочыў у Хутарскую сямігодку, пасля заканчэння якой паступіў у Смілавіцкі сельскагаспадарчы тэхнікум. Паспеў крыху папрацаваць па атрыманай спецыяльнасці, але першага свайго ўраджаю не дачакаўся: юнака прызвалі на службу ў Чырвоную Армію. Удзельнічаў у баях на Карэльскім перашыйку (1939–1940), атрымаў раненне, пасля працяглага лячэння быў дэмабілізаваны і вярнуўся на радзіму. Працаваў у рэдакцыі рудзенскай раённай газеты, пісаў вершы, нарысы, замалёўкі.

Калі пачалася Вялікая Айчынная, Міхась Пянкрат уключыўся ў барацьбу: спачатку быў партызанскім сувязным, пасля – памочнікам начальніка штаба. У партызанскай брыгадзе рэдагаваў рукапісны часопіс.

Пасля вайны працаваў у рэспубліканскіх выданнях, а з 1952 года далучыўся да рэдакцыйнага калектыву «Вожыка». Менавіта ў гэты час расквітнеў яго пісьменніцкі талент. У 1956 годзе выходзіць першы зборнік вершаў Міхася Пянкрата «Салаўіны бераг». Аднак чытачам ён усё ж больш вядомы як празаік па кнігах «Простыя людзі», «Палын і кветкі», «Не з таго канца», «Аўтарытэт на колах» і інш.

Прызнаюся: я, рэдактар аддзела фельетонаў, не мог не зайздросціць той пошце, якая клалася на стол работнікам літаратурнага аддзела. І кожнаму аўтару абавязкова паведамлялася, які лёс чакае яго твор, якое месца трэба дарабіць ці наогул перарабіць. А вось асабістыя свае творы Міхась Міхайлавіч на планёрках прапаноўваў да друку ў «Вожыку» рэдка. З якой прычыны, зразумела: каб даць дарогу іншым. Дарэчы тут будзе падаць вытрымку з віншавання юбіляру тых часоў: «На працягу больш як двух дзесяцігоддзяў Вы працуеце ў рэдакцыі часопіса «Вожык», дзе шмат аддаяце сіл і клопатаў выяўленню маладых літаратурных талентаў». Чыстая, як кажуць, праўда.

Чвэрць стагоддзя працы ў рэспубліканскім часопісе сатыры і гумару! Бясспрэчна – рэкорд. Да месца нагадаць і тое, што тыраж нашага «Вожыка» (перыядычнасць выхаду – два нумары ў месяц) даходзіў і да трохсот тысяч!

«Пяро не просіцца ў запас» – так пра творчы шлях М. Пянкрата гаварылася ў адной з радыёперадач тых часоў. Аднак час ідзе, ляцяць гады... Працягваючы не дужа вясёлую думку, хочацца шчыра сказаць: словы «пісьменнік» і «пенсіянер» неяк не пасуюць адно да другога. Віншавалі Міхася Міхайлавіча з 70-годдзем, неўпрыкмет падкралася і 80-годдзе... Паменела тэлефонных званкоў, букетаў кветак. А пажаданні ранейшыя – здароўя і новых творчых поспехаў!

Асабліва ўдзячны М. Пянкрат быў землякам. Песняру з салаўінай вёскі аддаваліся цэлыя старонкі мясцовай раённай газеты. У канцы мінулага стагоддзя ён даволі працяглы час быў літкансультантам пры рэдакцыі газеты «Мінская праўда». Прыемна, што мая былая газета (дзесяць гадоў аўтар гэтых радкоў працаваў у ёй намеснікам галоўнага рэдактара), адзначаючы сёлета Дзень друку, у адным з майскіх нумароў нагадала і пра «пісьменніка з Чэрвеня». Гэта дзякуючы яму «ззялі», прыцягвалі ўвагу чытачоў старонкі выдання. Глыбокая ўдзячнасць — вось тое пачуццё, якія зведалі ўсе, чые жыццёвыя пуцявіны хоць раз перакрыжоўваліся з гэтым светлым і душэўным чалавекам...

**Міхась ПЯНКРАТ**

## Несвядомы певень

Певень быў жоўта-чырвоны, як агонь, цыбаты. І вельмі гарласты... Прося Адамаўна прынесла яго з базару...

Прося Адамаўна — жонка Савасцея Мікітавіча, а Савасцей Мікітавіч — муж Просі Адамаўны.

Акрамя гэтага звання ў Савасцея Мікітавіча ёсць і другое: кіраўнік нейкай гаспадарчай установы.

У яго ёсць усё, што патрэбна кіруючаму чалавеку: кабінет, тэлефон, аўтарытэт. Праўда, аўтарытэт крыху падмочаны...

А яшчэ ёсць у Савасцея Мікітавіча сусед па кватэры — Кірыла Пятровіч. Той таксама кіруе нейкай гаспадарчай установай і мае кабінет, тэлефон і аўтарытэт...

Невядома з якой прычыны, але суседзі не ладзяць паміж сабой. Сварыцца не сварацца, а толькі і размаўляць па-таварыску не размаўляюць. Нядобразычліва маўчаць.

Злыя языкі гавораць, што паміж імі ладу няма з таго часу, як аднойчы Кірыла Пятровіч сказаў, быццам бы ў Савасцея Мікітавіча жывот больш за аўтарытэт.

Жарт вельмі злы. А калі ўлічыць тое, што Кірыла Пятровіч жыў па ўласнай запаведзі: менш даць дзяржаве, а больш узяць ад яе, то зразумела, што крыўдаваць было за што. Ён быў перакананы што і Савасцей Мікітавіч не грабе ад сябе. Жыве так жа, але гэта была святая няпраўда.

Ну, дык вось: Прося Адамаўна прынесла з базару пеўня.

На сямейным савеце было вырашана птушку адразу не рэзаць, а падкарміць, тлушчу нагнаць.

Савасцей Мікітавіч вынес пеўня на балкон і прывязаў за нагу доўгай шпагацінай. Паставіў каля яго тазік з вадою і поўную міску зерня...

Дні праз два Савасцей Мікітавіч зноў прынёс пеўню корм. Якраз у гэты ж час выйшаў на суседні балкон Кірыла Пятровіч і замест прывітання з'едліва запытаў:

— Ты што, думаеш, у мяне будзільніка няма? Ёсць! І мне твае паслугі не патрэбны.

— А мне нецікава ведаць, што ў цябе маецца, а чаго няма, — адрэзаў Савасцей Мікітавіч.

— А мне нецікава слухаць кукарэканне твайго аблезлага пеўня. Да таго ж гарлапаніць ён, каршуны яго дзяруць, не тады, калі ўсе разумныя пеўні кукарэкаюць, а дзярэ горла, калі ў галаву ўзбрыдзе...

Савасцей Мікітавіч злосна рассмяяўся:

— Што праўда, то праўда — певень несвядомы, загадваў яму маўчаць, а ён не выконвае гэта...

— Я вам загадаю! — загадкава сказаў сусед.

Праз некалькі дзён певень Савасцея Мікітавіча ашалеў ад суму. Ён ужо не толькі днём, але і ноччу ўскокваў на балясы балкона, лопаў крыламі і прарэзліва гарлапаніў.

Аднойчы раніцай Савасцей Мікітавіч пайшоў карміць гадаванца. Але даваць ежу не было каму. Певень знік.

Савасцей Мікітавіч вырашыў — птушку скінуў з балкона сусед. Каля дзвярэй у кватэру Кірыла Пятровіча стаяла доўгая сасновая планачка, якую той паставіў для чырвонай фасолі. Значыць, усё ясна: сусед прывязаў да яе нож і перарэзаў шпагаціну.

Пайшоў сварыцца да Кірылы Пятровіча...

Невядома, чым бы скончылася спрэчка, калі б не малая дачка Савасцея Мікітавіча. Яна прыбегла з вуліцы і, цяжка дыхаючы, сказала:

— Хутчэй, тата! Наш пеўнік зваліўся з балкона! Вісіць на вяровачцы!..

*1967 г.*

*(Міхась Пянкрат, «Спатканні і ростані», «Мастацкая літаратура», 1978, г. Мінск)*




Алег ГУЦОЛ.

# Каму руліць?

*Гумарэска*

Іван Саўчук ехаў у госці да сябра. Быў ён не адзін — за рулём сядзела жонка Тамара. Яна любіла вадзіць машыну, а муж яе ўвесь час хваліў. Лісльвыя прамовы найлепей атрымліваліся тады, калі ён хацеў прыгубіць чарку і расслабіцца.

— Іван, я за рулём зараз. А назад ты нас павязеш. Дамовіліся? — раптоўна прамовіла Тамара.

— Ну, мілачка мая, так не справядліва. Ты не хочаш, каб я павіншаваў сябра з днём нараджэння? — не жадаў мірыцца з прапановай Іван.

— Чаму? Прачытаеш верш, які ты для яго напісаў.

— Тома, ты мне зубы не загаворвай. Гэта амаль экспромт. Мне трэба зняць стрэс. Ты ведаеш, якая ў мяне была запарка на працы, — уздыхнуў Саўчук.

— Апошнім часам ты дужа часта так расслабляешся. Так што, мой дарагі, сёння будзеш цвярозы, — весела канстатавала жонка.

Іван надзьмуўся, такога павароту ён не чакаў. Лаяўся ў думках сам на сябе, што не сеў за руль, калі выязджалі з дому. А цяпер зразумеў, чаму жонцы так хацелася весці машыну.

— Мы можам застацца на ноч...— нясмела прапанаваў Іван.

— І не падумаю, — запярэчыла Тамара. — Заўтра на працу рана. Каб хацеў імяніннік доўгіх гасцей, дык паклікаў бы ў суботу. А сёння аўторак, таму пасядзім якую гадзіну ды дамоў паедзем.

«Неяк трэба хуценька кульнуць чарку, як прыбудзем. І каб жонка бачыла. Тады яна нікуды не дзенецца і сядзе за руль»,— вырашыў Іван.

У кватэры імянінніка было людна. Гаспадар сустракаў гасцей, абняў па-сяброўску Івана, а Тамара тым часам памкнулася да накрытага стала, наліла віна, падышла да імянінніка:

— Дарагі Сяргей Аляксандравіч! Віншую цябе з днём нараджэння! Здароўя табе і грошай у кожную кішэню...— і жанчына хутка асушыла кубак.

У кватэры павісла цішыня, усе няўцямна пераглядваліся.

— А цяпер слухайце...— і Тамара расказала пра спрэчку ў машыне.

Смех і апладысменты грымнулі, нібы ў канцэртнай зале. І толькі адзін чалавек сумна пазіраў на стол. Іван зразумеў: руліць усё ж такі давядзецца яму.

«Добра-добра, даражэнькая, на наступным тыдні мы да тваёй сястры на юбілей паедзем, я з табой гэтак жа пажартую і нават папярэджваць не буду. Павесялішся, як і я сёння!» — прыдумляў план помсты Саўчук.

Ён яшчэ не ведаў, што сястра Тамары запрасіла іх з начоўкай...

**Леанід ЛЕВАНОВІЧ.**






Аляксандр ШМІДТ х 2.












Алег ПАПОЎ х 4.

## Карацелькі

### І такое бывае…

Сустракаюцца два сябра. Першы пытаецца:

— Кажуць, ты зараз такі шчаслівы ходзіш, бо са сваёй жонкай развёўся?

— Так, але ўсё роўна не хапае адной рэчы.

— Якой?

— Сваёй кватэры, бо жывём мы пакуль яшчэ разам.

### На выбар

Неяк адна адзінокая жанчына запрасіла свайго суседа дапамагчы ёй па дачы. Надышоў час снедаць. Гаспадыня вырашыла згатаваць яешню. Пытаецца ў свайго памочніка:

— Колькі табе яек біць на патэльню?

Той падумаў і кажа:

— Ты выбірай, як табе будзе зручней: калі за працу нешта заплаціш, то і адным наемся! А калі не — то смаж увесь дзясятак!

### Абвестка

Прапала бабуля. Усе мы вельмі непакоімся. Прыкметы старой: гарбатая, без зубоў, крыклівая, увесь час лаецца. Калі хто знойдзе... можа ўзяць яе да сябе. Будзем толькі ўдзячныя.

### Вучоны

Адзін мужчына кажа другому:

— Прапанаваў я вашаму загадчыку хабар, дык ён мне на дзверы паказаў...

— Няўжо выгнаў? Вось які сумленны чалавек! — здзівіўся другі.

— Ды не... Проста даў мне зразумець, што за дзвярамі нас могуць падслухаць.

**Віталь ЖУРАЎСКІ,**
*г. Жодзіна.*

# БАЙКІ ПРА ВЯЛІКІХ

## Любімая частка

Нямецкі кампазітар, скрыпач і дырыжор Людвіг Шпор прыходзіў на рэпетыцыі сваёй новай араторыі з васьмігадовай дачкой. Яна безуважна слухала ўсю араторыю, але калі пачынала гучаць фінальная фуга, прыкметна ажыўлялася.

Шпор вырашыў высветліць прычыну такой рэакцыі.

– Табе падабаецца мая фуга? – спытаў бацька.

– Не, тата, але калі музыкі пачынаюць граць гэтую частку, я ведаю, што тваё сачыненне канчаецца і мы хутка пойдзем дамоў абедаць.

## Хітрасць

Рэмбрант, каб палепшыць свае фінансавыя справы, вырашыў схітрыць. Ён знік з Амстэрдама. Калі прайшоў нейкі час, жонка абвясціла, што атрымала паведамленне аб смерці мужа.

Да несуцешнай удавы пацягнуліся людзі, якія жадалі набыць што-небудзь з твораў мастака. Яны перабівалі адзін у аднаго цану, і за кароткі час усе карціны, малюнкі і чарцяжы мастака былі прададзены.

Праз некалькі месяцаў Рэмбрант вярнуўся, хітрасць яго раскрылася, але грошай назад ніхто не запатрабаваў.

## Хто аўтар?

Аднойчы ў майстэрню Пабла Пікаса прыйшоў новы паштальён. Уручыў мастаку заказны ліст, потым агледзеўся вакол і сказаў:

– У вас вельмі здольнае дзіця.

– Чаму вы так думаеце? – здзівіўся Пікаса.

– Тут у вас столькі дзіцячых малюнкаў...




## Знакаміты продак

Пры сустрэчы з Ламаносавым адзін царскі вяльможа насмешліва спытаў:

– Скажы, шаноўны, як гэта ты адважыўся ўвайсці ў царскі палац? Можа, у цябе знакамітыя продкі?

– Мне яны не патрэбны, я сам – знакаміты продак для сваіх нашчадкаў! – адказаў Ламаносаў.

## Незразумелая «марская» тэрміналогія

Адзін адмірал быў прадстаўлены Кацярыне II пасля марскога бою, які ён бліскуча выйграў. Імператрыца папрасіла яго расказаць падрабязнасці гэтай баталіі. Адмірал пачаў аповед, але паступова стаў перамяжоўваць яго такой лаянкай, што ўсе прысутныя здранцвелі ад страху і не ведалі, як адрэагуе на гэта Кацярына. Раптам па выразе твараў адмірал зразумеў, што нарабіў, і стаў прасіць прабачэння за нястрыманасць.

– Працягвайце далей, калі ласка, вы вельмі цікава расказваеце, – спакойна прамовіла Кацярына, – я гэтых марскіх назваў і слоў усё адно не разумею.

## Што можа перашкаджаць думаць?

Дзікенс часта рыбачыў каля свайго дома і заўсёды на адным і тым жа месцы. Аднойчы яго сусед не вытрымаў і сказаў: «Вы тут нічога не зловіце. А калі паднімецеся крыху ўверх па плыні, то літаральна пасля кожнага закіду будзеце выцягваць па рыбіне».

Дзікенс адказаў: «Я ведаю, але пастаяннае выцягванне вуды будзе адцягваць мяне ад роздумаў».



Алег ПАПОЎ х 2.

## Гэта ж так лёгка!

Ва ўзросце сямі гадоў Моцарт даваў канцэрт у Франкфурце. Пасля да выступоўцы падышоў чатырнаццацігадовы юнак і стаў захапляцца яго майстэрствам:

– Ты так выдатна йграеш! Я ніколі не змагу так навучыцца.

Моцарт запярэчыў:

– Гэта ж вельмі проста, ты вунь які дарослы, а калі не атрымаецца, пачынай пісаць ноты...

Юнак засаромеўся:

– Ведаеш, я пішу, але толькі вершы...

Моцарт з захапленнем прамовіў:

– Выдатна! Гэта, напэўна, яшчэ цяжэй, чым прыдумляць музыку!

Юнак не згадзіўся:

– Ды не, гэта вельмі лёгка, ты паспрабуй...

Прыкладна так працякала гутарка маленькага Моцарта і юнага Гётэ.

## Доўгае чаканне

Раман Вікцюк паставіў спектакль «Ганна Карэніна» ў інсцэніроўцы Рыгора Горына. Спектакль атрымаўся выдатным, але доўгім, бо ішоў каля пяці гадзін. На прэм'еры, дзесьці ў канцы чацвёртай гадзіны, адзін пажылы мужчына нахіліўся да Горына і сказаў: «Слухайце, я яшчэ ніколі ў жыцці так доўга не чакаў цягніка!»

**Наталля ВАЯГА,**
*г. Мінск.*







Алег ПАПОЎ.



Аляксандр ШМІДТ х 3.

# Уладзіміру Іванавічу МАЦВЕЕНКУ 90 гадоў!

*Пісьменніку Уладзіміру Іванавічу МАЦВЕЕНКУ (1928) сёлета спаўняецца ні многа ні мала – 90 гадоў! З іх не менш чым сорак творца працаваў на гумарыстычнай ніве, публікуючы на старонках «Вожыка» як дзіцячыя, так і «дарослыя» вясёлыя вершы, байкі, гумарэскі, мініяцюры, эпіграмы. Медык па адукацыі, ён умее лячыць не толькі медыкаментозна, але і адмыслова – з дапамогай гумарыстычнага, а часам і сатырычнага слова. Добрым смехам прасякнуты дзіцячыя кнігі пісьменніка, якіх у скарбонцы Уладзіміра Іванавіча нямала. Ён лаўрэат літаратурных прэмій імя Янкі Маўра і імя Васіля Віткі. Першая кніга паэта ў «Бібліятэцы «Вожыка» мела назву «Лекі без аптэкі» (1987). Пазней выйшлі кнігі для дзяцей «Загаданачка» (1993), «Азбука ў загадках» (1992), «Сорак скорагаворак» (1998).*

*«Вожык» шчыра віншуе свайго даўняга і надзейнага сябра, надзвычай добразычлівага і далікатнага чалавека, шаноўнага Уладзіміра Іванавіча з 90-годдзем і зычыць яму моцнага здароўя, бадзёрасці і добрага настрою!*




Шарж Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.

## Уладзімір МАЦВЕЕНКА

### Аплявуха

*Дыялог*

– Учора я, –
Сказаў Мікола Толю, –
Пацалаваў у парку Полю.
– І што яна?
– Такую заляпіла аплявуху,
Ажззвінела ў вуху.
– А ты?
– Я тут жа, брат,
Пакляўся з перапуду,
Што болей цалаваць яе не буду.
– Ну, а яна?
– Ды што яна! –
Сказаў Мікола глуха. –
Чамусь заехала мне
І ў другое вуха.

### Вось яно што

– Глядзі, –
Іван гаворыць Лесі, –
Учора дом насупраць
Знеслі.
Была сцяна
Па самае акно,
А зараз неба, сонца –
Усё відно.
Што значыць у пакоі
Павіднела!
Аж на душы ў мяне
Павесялела.
Івана жонка тут перапыніла:
– Кінь, гэта ж я
Акно памыла.

### Зноў гора

– Вось дык новыя суседзі, –
Скардзіцца бабуля Федзю.
Федзя лыпае вачыма:
– Зноў крыклівыя на ліха?
– Не, падслухаць немагчыма,
Размаўляюць вельмі ціха.

### Разумная дачка

Сядзела Ната з лялькай у руках.
Упалі ноты –
Ната кажа:
– Бах!
Ах, пляснула ў далоні маці:
– От падзівіцеся з дзіцяці.
Хоць і гадкоў ёй мала,
А кампазітара пазнала.

### Шчасце

Ціт басам прабубніў,
Як з жонкай пасварыўся:
– Якім я дурнем быў,
З табою ажаніўся.
Абцёршы табурэт,
Сказала мужу Насця:
– Яно і не сакрэт:
Даецца дурням – шчасце.

# Летняя варажба

Варажу трэці дзень на каханне,
У рамонкаў шукаю адказ
На ўсё тое ж пытанне-заданне,
Што ўсіх нас хвалявала хоць раз.

Апантана пялёсткі зрываю,
Каб даведацца: любіць ці не?
Ды рамонкі (памерці з адчаю!)
Кожны раз выдаюць строга: не!

Загубіўся ў тых кветках, у леце,
Так і восень, глядзі, прыбяжыць!
Мо ёсць іншыя спосабы ў свеце,
На каханне каб паваражыць?

З цотным лікам пялёсткаў рамонкі,
Пэўна, трэба букетам сабраць,
Да каханай пайсці ранкам звонкім
І сапраўдны адказ атрымаць!

**Уладзімір ГРЫШЧАНКА,**
*г. Гомель.*



Алег КАРПОВІЧ.



Аляксандр ШМІДТ.




Мікола ПІРГЕЛЬ.

# Перад адпачынкам

*Гумарэска*

Марыі Зайцавай, ці па-вясковаму Зайчысе, упершыню за апошнія дваццаць гадоў прапанавалі пайсці ў адпачынак не восенню-зімой, а ў ліпені. Загадчык фермы, дзе яна працуе лабаранткай, ледзь не загадаў: «Ідзі цяпер, інакш да канца года цяжка будзе табе замену знайсці». Жанчына згадзілася, а ўвечары пазваніла дачцэ і падзялілася навіной.

– І як жа будзеш водпуск праводзіць? – спытала Люська. – Каля градак і хлеўчукоў?

– А дзе ж яшчэ! На мора, курорт грошай не зарабіла, а калі б яны і знайшліся, то няма на каго гаспадарку пакінуць. Ты ж не прыедзеш...

– Не. Але ж можна і дома штосьці цікавае прыдумаць. Пачакай, я пагляджу ў інтэрнэце, там столькі розных парад можна знайсці. Толькі выбірай! Прыеду ў пятніцу пасля работы, абмяркуем.

Так дачка і зрабіла. Зайчыха, праўда, на тыя інтэрнэтаўскія прапановы асабліва і не разлічвала, але калі Люська пасля вячэры дастала з сумачкі некалькі раздрукаваных лісткоў з праграмай дзеянняў на ўсе 25 дзён адпачынку, паслухаць згадзілася.

– Дзень першы, – пачала дачка. – Да абеду адсыпацца.

– Ага, я ў шэсць гадзін ужо на нагах. Хаця і каровы пяць гадоў ужо як няма, і свіней не трымаем, але звычка засталася. Бакі намуляеш столькі часу без патрэбы ў ложку валяцца. Гэты пункт мне не падыходзіць.

– Добра, чытаем далей. Дзень другі. Вазьміцеся за свой знешні воблік: схадзіце ў салон прыгажосці, змяніце прычоску, зрабіце модны манікюр, педыкюр...

– Толькі гэтага мне і не хапае. У цырульні з дзявочых гадоў не была, суседка Паўліха падстрыжэ, ды і добра. А каровы мяне і без размаляваных пазногцяў пазнаюць. Гэта вы, маладыя, і валасы ў ружовы колер фарбуеце, і пупкі размалёўваеце, і пазногці квадратныя робіце.

– Можа, вось гэты пункт падыдзе. Шопінг: дзень, а то і два адвядзіце на паходы па магазінах. Не шкадуйце грошай на сябе, любімую, хутчэй у буцікі!

– Ага, у нашых Пятрылавічах столькі буцікоў, што аж вочы разбягаюцца. У сельмагу тры сукенкі, у якіх толькі на ферму і хадзіць, гадоў пяць вісяць, выцвілі на сонцы. Каб хто ў Парыж на самалёце звазіў па ўборы, не адмовілася б. Але на маю зарплату хіба французскую насоўку купіш, на большае не хопіць, – махнула рукой Марыя.

– Ідзём далей, – не супынялася Люська. – Культасвета. Наведайце выстаўку фотаздымкаў, тэатр, музычны фестываль, паэтычную гасцёўню...

– А як жа, абавязкова схаджу. Як толькі адкрыецца штосьці падобнае ў нашай вёсцы. Можа, гадоў так праз сотню-другую і ўбачым такі цуд.

– Табе дагадзіць – што жалезнага бобу з'есці. А во, тут і пра ежу пункт ёсць. Станьце гурманам. Прыгатуйце стравы, якія не ўжываеце штодзень: смоўж у соўсе, салата з кальмараў і авакада, тырамісу.

– Сама смаўжоў еш! У мяне яшчэ паўметра паляндвіцы ляжыць, кумпячок падвэнджаны. Хоць у горадзе мяса купленае, але па-дамашняму прыгатаванае. Вось гэта смаката! – усміхнулася Зайчыха.

– Наступны пункт табе не падыдзе. Тут прапаноўваюць зрабіць дзень кавы. Загадзя дамовіцца з сяброўкамі, выбраць кавярню, лепш новую, што нядаўна адчынілася, і атрымаць асалоду ад водару любімага напою, – Люся перагарнула старонку сваіх раздрукоўвак. – Магчыма, вось гэта даспадобы прыйдзецца. Спорт – гэта ўсё! Запішыцеся на фітнес, ёгу ці ўсходнія танцы. Можаце ўзяць напракат веласіпед і адправіцца на прагулку.

– У мяне і без спортклубаў гімнастыкі хапае. На ферме віламі намахаешся, і дома ў градах ёгі хапае. Гэта гарадскім трэба пра фігуру клапаціцца, бо некаторыя столькі тлушчу назапасілі, што сагнуцца не могуць. А веласіпед – тое, што трэба, на ім за пяць хвілін да фермы даязджаю, не трэба пехам цягнуцца.

– Не хочаш актыўнага адпачынку, то ёсць нешта для гультаёў. Прысвяціце адзін дзень чытанню кніг. Выбірайце, што больш падабаецца: філасофскія разважанні, любоўныя прыгоды ці дэтэктыўныя гісторыі, – прапанавала дачка.

– Толькі мне пра філасофію і чытаць. На раённую газету не заўсёды часу хапае, па тэлевізары надвор'е, канцэрт паслухаю, зрэдку які дэтэктыў ці любоўны раман гляну, – зноў не спадабалася ідэя Зайчысе.

– Ай, мама, нейкая ты нерызыкоўная... Можа, хоць гэта спадабаецца: калі не атрымліваецца акунуцца ў пену марскіх хваль, ідзіце да рэчкі, возера. Вазьміце посцілку, трохі ежы і каханага чалавека.

– Ёсць каля фермы азярына, каровы там ад спёкі ратуюцца. «Аладак» каля берага столькі накідалі, што і посцілку няма дзе разаслаць... Не, дачушка, больш ты мне не чытай падобнае. У мяне свая праграма ёсць: сёння будзем прымаць сонечныя ванны на агародзе, вечарам травы трусам трэба нарваць, а заўтра станем гурманамі і будзем халаднік з маладой крапівы варыць. Вось гэта мой ідэальны адпачынак, без усялякіх буцікоў ды смаўжоў пад соўсам! – засмяялася Марыя.

**Віктар САБАЛЕЎСКІ,**
*г. Узда.*




**Пётр СЯМІНСКІ**

## Ланцуг Арыядны

*Адчуў: калодзежны блакіт*
*Твой мілы твар калыша.*
*****
*Ды пырханулі над травой,*
*Нібыта крылы, ногі...*
*Міхась ПАЗНЯКОЎ*

Я халасты наведаў Буг,
Каб вылечыць балячкі.
Гляджу – у студню пхне ланцуг
Гуллівая зямлячка.
– Як зваць цябе, кахання сок?
Падслухаў:
– Арыядна.
Мой твар агледзела і – скок
У бездань тая панна.

Я, каб віны ў душы не мець,
За ёю рушыў смела.
Ілбом у лоб не ляснуў ледзь:
На ланцугу вісела.
Нібыта д'ябал у агні,
Я быў тады ад злосці,
Схапіў далонню край сукні,
Каб неяк хоць адпомсціць.
Азадак мне між тым ва ўпор
Стальная рвала «кошка»,
Жанчыне – ўрэшткі ўвесь убор:
Ланцуг парваўся трошкі.
Я нешта выў, нібыта змей,
Якому піляць рогі.
Хоць прызямліўся ў мяккі глей,
Зламаў сабе я ногі...
За што пакуты тыя мне?
Не лёс, а завядзёнка:
Ледзь апынуўся я на дне,
На шыю ўпала жонка...




**Янусь МАЛЕЦ**

## Як зарабіць на хлеб?

*Эпіграма на аўтаэпіграму*
*Анатоля ЗЭКАВА*

*Я – парадыст*
*І вельмі рады,*
*Што ў нас паэтаў так багата.*
*А мне ў іх ёсць заўжды патрэба,*
*Інакш даўно б сядзеў без хлеба.*
*Анатоль ЗЭКАЎ*

І я – таксама парадыст!
Аднак табе зайздрошчу, Толя:
Мая паскуднейшая доля,
Бо хутка стану, як той гліст.

Чым напішу пародый болей –
Тым меншыя іх тыражы.
Дык па-сяброўску падкажы,
Як хлеб і мне займець да солі?




Аляксандр ПЯТРОЎ х 2.




*Яраслаў ГАШАК (1883–1923) – чэшскі пісьменнік-сатырык, драматург, фельетаніст, журналіст. Напісаў каля дзвюх тысяч апавяданняў, фельетонаў і іншых твораў. Аўтар кніг пра бравага салдата Швейка і шматлікіх гумарыстычных зборнікаў.*

## Рэкламная сцэна

*Гумарэска*

Па адной з самых вялікіх вуліц амерыканскага горада, назва якога не мае значэння, у абед ішлі насустрач адзін аднаму два чалавекі прыемнай знешнасці, з чыста паголенымі тварамі.

Яны амаль сутыкнуліся, і тут мужчына ў шэрым цыліндры спытаў у другога ў мяккім капелюшы:

– Прабачце, сэр, ці не меў я гонар сустракацца з вамі?

– Зусім не, сэр, я вас не ведаю, – адказаў мужчына ў мяккім капелюшы.

– Гэта дзіўна! – гучна, каб было чуваць прахожым, усклікнуў першы. – Значыць, вы сцвярджаеце, што ніколі мяне не бачылі?

– Ніколі, – здзіўлена пацвердзіў другі.

– Тады дазвольце спытаць, – працягваў мужчына ў шэрым цыліндры, – чаму вы так уважліва разглядвалі мяне здалёк?

У час размовы вакол іх пачалі збірацца цікаўныя разявакі.

– Усе могуць пацвердзіць, што я на вас не глядзеў, – сказаў другі.

– Глядзелі, сэр! – вельмі гучна запярэчыў першы. – Калі вы джэнтльмен, скажыце, будзьце ласкавы, чаму вы гэта зрабілі!

– Я вас не ведаю, лічу ваша пытанне зусім недарэчным і...

– Працягвайце, калі ласка, што «і»...

– Я не збіраюся адказваць, – спакойна прамовіў другі і, звяртаючыся да тых, хто стаяў каля іх і з узрастаючай цікавасцю прыслухоўваўся да гэтай незвычайнай спрэчкі, дадаў: – Прысутныя могуць пацвердзіць, што я не сказаў нічога дрэннага.

– Тады, значыць, думалі штосьці дрэннае, ці не так? – спытаў узбуджаны першы.

– Я не буду адказваць і на гэтае пытанне, так як...

– Што «так як»? – перапыніў яго мужчына ў шэрым цыліндры. – Вы хацелі, відавочна, сказаць: «Так як не збіраюся больш пэцкацца аб вас»?

– Я гэтага не казаў, – запярэчыў мужчына ў мяккім капелюшы, – таму што...

– Якія словы вы маеце на ўвазе пад гэтым «таму што»?

– Абсалютна ніякія, сэр!

– Але вы зрабілі на іх нейкі асаблівы націск, сэр.

– Нават не думаў.

– Ну, тады не стойце каля мяне, – раздражнёна зароў першы.

– Я магу знаходзіцца, дзе мне захочацца, хаця...

– Словам «хаця» вы збіраецеся абразіць мяне, сэр! – пракрычаў пан у шэрым цыліндры.

Колькасць разявак і цікаўных між тым павялічылася.

– Вас? І абразіць? – спакойна адказаў другі мужчына. – Наўрад ці гэта магчыма!

– Што вы хацелі сказаць гэтай фразай?

– Нічога, акрамя...

– Што вы разумееце пад словам «акрамя»?

– Пад словам «акрамя» я разумею, што вы, сэр, асёл.

– Стукніце яго! – параіў хтосьці з гледачоў. – Застрэльце яго!

Мужчына ў шэрым цыліндры паставіў свой галаўны ўбор на зямлю і пачаў закасваць рукавы.

– За гэта вы адкажаце, сэр! – крыкнуў ён.

– А ну, падыдзіце! – прамовіў другі. – Паўтараю яшчэ раз, што вы асёл!

– Окей! – усклікнуў першы. – За гэта я выб'ю вам зубы!..

– Паспрабуйце!

– Што ж, паспрабую! – з пагрозай прамовіў першы і стукнуў пана ў мяккім капелюшы па зубах з такой сілай, што той упаў на зямлю.

Наступіла неразбярыха. Усе кінуліся на зачыншчыка... Але ў гэты час пацярпелы падняўся, стаў насупраць свайго праціўніка, якога прысутныя ўжо збіраліся біць, і зусім спакойна сказаў:

– Лэдзі і джэнтльмены, паглядзіце на мае зубы, усе яны цэлыя і на месцы, – і ён паказаў усім сваю сківаў, у якой зіхацелі цудоўныя белыя зубы. – Джэнтльмены, глядзіце і памятайце! Мае зубы штучныя. Фірма «Мартэнс і Ко» робіць неразбуральныя штучныя зубы – найлепшую замену сапраўдным!

Пасля гэтага першы пан узяў другога пад руку, і разам яны пракрычалі:

– Рэкамендуем вам штучныя зубы фірмы «Мартэнс і Ко»!

Затым закурылі сігары і спакойна пайшлі.

*«Светозор», 1905 г.*

**Пераклаў Міхась СЛІВА,**
*г. Рагачоў.*

# Мастак, які дарыў радасць…






Змірыцца з гэтым фактам немагчыма: пайшоў ад нас у іншы свет таленавіты мастак-карыкатурыст, верны вожыкаўскі сябар Уладзімір Уладзіміравіч ЧУГЛАЗАЎ. Цяжка ўявіць, што больш не будзе ў друку яго новых вясёлых малюнкаў, выкананых рукой сапраўднага прафесіянала: нават свой дыплом на факультэце графікі ў Віцебскім педагагічным інстытуце мастак абараняў карыкатурамі.

Не стала сціплага і добрага чалавека, які больш за дваццаць гадоў працаваў мастаком-карыкатурыстам у «Брэсцкім кур'еры». Сапраўдны беларус, ён і камара, што садзіўся напіцца вясёлай крыві, не забіваў, а зганяў… Тысячы малюнкаў выйшлі з-пад пяра майстра. Апошнія гады, калі хвароба дакучала, перашкаджала працаваць і дарыць людзям радасць, па яго просьбе ў «Вожык» карыкатуры дасылала сястра Галіна Іванаўна Астапковіч.

Спачуваем родным і блізкім Уладзіміра Уладзіміравіча, сумуем разам з імі. А разам з тым — помнім, любім і паважаем. Гэтая памяць і ўдзячнасць — у творах майстра, якія ўпрыгожваюць наш часопіс.













Алег КАРПОВІЧ.

**Анатоль ЗЭКАЎ**

## Кот і камп'ютар

Гэта праўда — не лухта:
Ёсць камп'ютар у ката.
А яшчэ ў ката ёсць флэшка,
Ды яна яго не цешыць,
Бо адно цікавіць Цішку —
Не камп'ютар сам,
А мышка.

## Кашуля навырост

Кашулю навырост
Набыў у краме дрозд.
Чаму не апранае?
Ніяк не вырастае!

## Ела львіца піцу

Ільвянят прывезла львіца
На экскурсію ў сталіцу.

У піцэрыі ў сталіцы
Заказала львіца піцу.

Ела піцу, смакавала,
Ільвянятак частавала.

І цяпер штодня на піцу
Просяцца яны ў сталіцу.

## Загадкі

На дзвярах заўжды вішу,
Не кусаю, не брашу.
Хоць вішу ціхутка з краю,
Але ў хату не пускаю,
Пакуль ключ не ўлезе ў бок.
Вартаўнік я ваш — ...

*(Замок.)*

* * *

Як і ты, я зубы маю,
Ды нікога не кусаю.
Рэжу дровы раніцой,
А завуць мяне ...

*(Пілой.)*

* * *

Зроблен з моцнага жалеза,
У драўніну шпарка ўлезу.
Толькі прама, а не бокам,
Малаток прыдасць мне кроку.
Не ўявіць будаўніка
Хоць без аднаго ...

*(Цвіка.)*

* * *

Вастраносы працаўнік
Ленавацца не прывык.
Моцна з трактарам сябруе,
Па вясне ў палях шчыруе.
Ураджаю там не будзе,
Дзе зямлю ён не разбудзіць.
Вось дык цуда, вось дык зух!
Гаспадар зямлі ён — ...

*(Плуг.)*

* * *

Вострая, насатая,
Раблю сялянам хаты я.
Са мной — калі здаровы —
Паколеш спрытна дровы.
І лесаруб за дзверы
Не выйдзе без ...

*(Сякеры.)*

**Мікола САЛАЎЦОЎ,**
*г. Чавусы.*






Аляксандр ПЯТРОЎ х 4.











*Знаёмцеся, Амельянчук Сяргей Аляксандравіч. Нарадзіўся 10 верасня 1998 года. Скончыў Дзівінскую сярэднюю школу і Кобрынскі ГПК па спецыяльнасці выканаўца мастацка-афарміцельскіх работ і дызайнер інтэр'ераў. Любіць і ўмее маляваць карыкатуры. Прапануем чытачам «Вожыка» пазнаёміцца з першымі яго работамі на нашых старонках.*



## Беларускі маўглі

Усе ведаюць героя Р. Кіплінга Маўглі, які жыў у джунглях і выхоўваўся дзікімі звярамі. Вось толькі мала хто чуў пра беларуса, які таксама выбраў жыццё ў лесе. Але гэта не фантастычная гісторыя, а звычайная чалавечая слабасць.

Мінчанін вельмі любіў азартныя гульні. З-за гэтага ад яго спачатку сышла жонка з дзіцём, а потым адвярнуліся і сябры. Ён узяў вялікі банкаўскі крэдыт і буйныя сумы грошай у пазыку, аднак адыграцца не атрымлівалася. У нейкі момант мужчына адважыўся на злачынства – украў у жыхаркі Жодзіна рукзак з кашальком. Толькі гэта не выратавала яго ад цяжкага становішча, а наадварот... Мінчанін стаў значыцца ў міждзяржаўным пошуку. Вось тут ён, каб больш нікому не перашкаджаць, і абраў жыццё ў лесе, бо там яго ніхто не павінен быў знайсці. Прайшло два гады. Можа, мужчына і працягнуў бы весці такі лад жыцця: збіраць дары лесу, жыць у самаробным будане, каб не курсант жодзінскай міліцыі, які апазнаў злодзея з арыенціроўкі.

Так беларускага маўглі затрымалі. Вядзецца следства. Мы ж спадзяёмся, што такое добраахвотнае пустэльніцтва пайшло на карысць, і мінчанін вылечыўся ад ігравой залежнасці. А там, магчыма, і выправіць усе свае памылкі жыцця.




## Дзіравая памяць

Ці здаралася з вамі такая сітуацыя? Заходзіце ў краму, але рэчы, якую хацелі купіць, няма ў продажы. Або ўвогуле не памятаеце, па што прыйшлі. Тады вы бераце хоць штонебудзь. Не проста ж так выходзіць з пустымі рукамі.

Падобнае здарэнне адбылося з жыхаром Слуцка. Дваццаціпяцігадовы хлопец залез у чужую кватэру і хацеў прысвоіць нешта каштоўнае. Але, мабыць, забыўся ці задумаўся і вырашыў сцягнуць... некалькі цыгарэт і запальнічку. Якраз у гэты момант з'явіўся гаспадар кватэры. Убачыўшы няпрошанага госця, выклікаў міліцыю.

Гора-злачынцу затрымалі. Ён рызыкуе прасядзець за кратамі ажно шэсць гадоў. У любым выпадку ў хлопца будзе дастаткова часу, каб пачаць трэніраваць памяць.

## Скарб мудрасці

Многія мудрыя людзі параўноўвалі кнігі са скарбам. Папяровыя выданні дораць веды, пашыраюць кругагляд і дазваляюць без фінансавых выдаткаў падарожнічаць па розных невядомых землях.

Менавіта па гэтай прычыне шмат у каго хатняя бібліятэка змяшчае ў сабе энцыклапедыі. Не стала выключэннем і адна мінчанка. Вось толькі трымала яна кнігі не ў кватэры, а ў тамбуры.

Неяк да бібліяфілкі завітала 26-гадовая суседка і папрасіла патэлефанаваць. Заўважыла 30 тамоў энцыклапедыі. «Чаго яны ляжаць проста так, без прыгляду. Трэба сабе забраць!» – падумала суседка і не закрыла дзверы, калі выйшла. Праз некаторы час вярнулася з мужам і вынесла ўсе кнігі да сябе, прыхапіўшы яшчэ заадно статуэтку. Агульны кошт рэчаў склаў амаль 350 рублёў.

Зразумела, што мінчанка не хацела развітвацца са сваім скарбам, таму напісала заяву ў міліцыю. Калі злодзеяў затрымалі, яны паспелі ўжо прадаць частку тамоў. Астатнія ж праваахоўнікі канфіскавалі і вярнулі законнай уладальніцы. Зараз аматарам бясплатна пажывіцца чужым скарбам мудрасці пагражае арышт ці выпраўленчыя работы. Як лічыце, ці засвоілі яны навуку?

**Наталля КУЛЬГАВАЯ.**




Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.



Алег КАРПОВІЧ.

# Плату ГУДОВІЧУ — 80 гадоў!




Аўташарж

## Гумар з гісторыі, ці гісторыя з гумарам…

*Плат ГУДОВІЧ (Леў Раманавіч Казлоў) адзначыў сваё 80-годдзе (нарадзіўся 28 ліпеня 1938 года). Радзіма юбіляра вёска Ліцвінкі Кобрынскага раёна Брэсцкай вобласці ганарыцца сваім зямляком. Менавіта адтуль пачаў свой навуковы шлях беларускі гісторык, перакладчык, картограф, кандыдат гістарычных навук. Акрамя сваёй сур'ёзнай справы, ён заўсёды знаходзіў час для гумару. Друкуем некалькі радкоў з яго гумарыстычнай кніжкі «Музей остроумия».*

*Рэдакцыя часопіса «Вожык» жадае моцнага здароўя і доўгіх гадоў жыцця свайму шаноўнаму аўтару.*

На ваенным аглядзе Аракчэеў зрабіў заўвагу Ярмолаву, што коні ў яго войсках у кепскім стане і гэта кідае цень на рэпутацыю генерала. Той адказаў: «Ведаю, што рэпутацыя нярэдка залежыць ад скаціны!»

* * *

У час святочнага абеду ў багатым парыжскім доме Талейран апынуўся за сталом на месцы, вельмі аддаленым ад цэнтральнага. Пасля прыёму гаспадар, які надта перажываў гэтую памылку, стаў прасіць прабачэння, якое паставіла знакамітага дыпламата ў неналежнае становішча. «Нічога, нічога, — супакоіў таго Талейран, — ганаровае месца заўжды там, дзе сяджу я».

* * *

Людовік XV, які славіўся сваёй няўважлівасцю, спытаў неяк у венецыянскага пасла Градзеніда:

— Скажыце, а колькі чалавек уваходзіць у ваш Савет дзесяці, якія займаюцца судовымі справамі?

— Сорак, ваша вялікасць! — адказаў пасол.

*«Музей остроумия», г. Мінск, «Полымя», 1989 г.*

# НАШ ЧАЛАВЕК!

*Быль*

Дзве кабеты-сяброўкі сядзелі цёплым летнім вечарам на лаўцы. Размаўлялі пра здароўе.

— У баку коле, устаць з правай нагі не магу, — скардзілася Галя.

— А ў мяне з раніцы ціск высокі, а як вечар надыходзіць, то робіцца нізкі, — падзялілася Алена.

Раптам ідылію сяброўак перапыніла іншая кабета, якая выйшла з пад'езда.

— Як маешся, Верачка? — запыталася Галя.

— Усё цудоўна. Справы ў парадку, настрой — баявы, — з усмешкай адказала жанчына і пайшла.

— Не наш чалавек, — паківалі галовамі сяброўкі і сталі зноў гутарыць пра свае болькі ды хваробы.

Да гаворкі жанчын далучылася бабуля, якая таксама ў гэты вечар вырашыла выйсці на вуліцу.

— Ой, Ніначка, сто гадоў цябе не бачылі. Куды ты знікла? — запыталіся кабеты ў адзін голас.

— І пэўна зноў яшчэ доўга не ўбачыце, — уздыхнуўшы, адказала тая. — З кватэры выйсці не магу. У баку коле, спіна ломіць, галава шуміць, як прачнуся — на абедзве нагі не адразу ўстаю.

— Наш чалавек, — задаволена прамовілі жанчыны. — Ну, хадзі сюды, пагутарым.

Далей размова палілася ракой. Жанчыны не заўважылі, як зайшло сонца. Разышліся, калі зусім сцямнела. Затое колькі агульных тэм абмеркавалі!

**Андрэй СІДАРЭЙКА,**
*Рэчыцкі раён,*
*агр. Каравацічы.*




Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ




Мікола ГІРГЕЛЬ.




Алег ГУЦОЛ.



Пётр КОЗІЧ.

«Вожык» — грамадска-палітычны, літаратурна-мастацкі часопіс

16+

№ 8 (1559), 2018 год.
*Выдаецца з ліпеня 1941 года.*

Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь,
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».

Намеснік галоўнага рэдактара
Аляксандр Пятровіч КАРШАКЕВІЧ.



Рэдакцыя: Аляксандр КАРШАКЕВІЧ *(намеснік галоўнага рэдактара, мастацкі аддзел),* Наталля КУЛЬГАВАЯ *(аддзел фельетонаў і пісьмаў),* Вераніка МАНДЗІК *(аддзел літаратуры).*

Адрас рэдакцыі
Юрыдычны адрас: Рэспубліка Беларусь, 220013, г. Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10 а.
E-mail: info@zviazda.minsk.by.

Паштовы адрас: Рэспубліка Беларусь, 220005, г. Мінск,
праспект Незалежнасці, 39.
E-mail: a-vojik@yandex.by;
Тэлефоны: галоўнага рэдактара — 288-24-62, намесніка галоўнага рэдактара, аддзелаў фельетонаў і пісьмаў, літаратуры, мастацкага — 284-84-52, бухгалтэрыі — 287-18-81, факс — 284-84-61.

Падпісныя індэксы:
74844 — індывідуальны, 01380 — індывідуальны льготны,
748442 — ведамасны, 01381 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 520 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»
Дырэктар — галоўны рэдактар Павел Якаўлевіч СУХАРУКАЎ

Камп'ютарная вёрстка: Дар'я КАМЕЙША
Стыльрэдактар: Марыя ГІЛЕВІЧ

Падпісана да друку 03.08.2018. Фармат 60х84 1/8. Афсетны друк.
Папера афсетная. Ум. друк. арк. 2,79.
Ул.-выд. арк. 3,30. Тыраж 673 экз. Заказ .

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «БудМедыяПраект».
ЛП № 02330/71 ад 23.01.2014, вул. В. Харужай, 13/61,
220123, Мінск, Рэспубліка Беларусь.






Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.

# УСЯГО ПАТРОХУ!


















# Вожыкаўскі плакат

Алег КАРПОВІЧ.

*Хоць і даймае нас спякота,*
*Ды пасмяяцца ўсё ж ахвота.*

*Дарэмна часу не губляй,*
*Хутчэй падпіску афармляй!!*

## Нашы індэксы:

**ІНДЫВІДУАЛЬНЫ – 74844,**
**індывідуальны льготны**
(для жыхароў сельскай мясцовасці: райцэнтры і населеныя пункты раёнаў) – **01380**;

**ВЕДАМАСНЫ – 748442,**
**ведамасны льготны**
(для ўстаноў Міністэрства культуры, Міністэрства адукацыі) – **01381**.

**«Вожык» прыйдзе кожнаму жыхару Беларусі!**



**ПАДПІСКА НА II ПАЎГОДДЗЕ 2018 ГОДА**

**Падпіска на 1 месяц каштуе:**
індэкс 74844, цана 4,70 рублёў,
індэкс 01380, цана 3,74 рублёў,
індэкс 748442, цана 13,16 рублёў,
індэкс 01381, цана 10,50 рублёў.

**Падпісацца можна ў любым аддзяленні сувязі РУП «Белпошта», у кіёсках РУП «Белсаюздрук». А яшчэ — па інтэрнэце (з дапамогай пластыкавых электронных картак, электронных грошай) ці праз аўтаматызаваную сістэму Адзінай разлікова-інфармацыйнай прасторы (АРІП).**




